КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Каб бегаць, як атлет, жыві без цыгарэт!

У Свіслацкім раёне даішнік хацеў спыніць матацякліста, які ехаў без шлема. А той даў драла – спярша на матацыкле, а потым – кінуўшы свайго «коніка», бягом. Да лесу не дабег, даішнік дагнаў яго. «Уцячы мне перашкодзіла курэнне», – прызнаўся небарака.

Для сучасных вёсак-сёл
То малюнак звыклы:
Па завулках і вакол
Ездзяць матацыклы –
І павольна, і наўскач.
Але ў тым праблема,
Што парой якісь ліхач
Носіцца без шлема.
Ён наб'е вялікі гуз,
Стрэўшыся з канавай,
Галава, як той гарбуз,
Можа трэснуць нават,
І тады яго радня
Загалосіць нема.
…Па ваколіцах штодня
Гойсаў ён без шлема
На лахматай галаве –
Выгляд, думаў, модны.
Матацыкл яго раве,
Як бугай галодны.
Ад яго шугае люд
З вуліцы, з дарогі.
Ды аднойчы тут як тут
Дзядзька вельмі строгі.
І махнуў ён ліхачу
Палкаю ў палоскі.
Той з нахабнасцю ўваччу
Нёсся каля вёскі.
І, канешне, не спыніў
Злыдзень матацыкла.
«Я – як рыцар на кані!
Паспрабуй жа дагані!» –
Іскра-думка ўзнікла.
І пыхліва больш яшчэ
Ён дабавіў газу,
Бо разлічваў, што ўцячэ
Ад «мянта» адразу.
«Мой жалезны конь –
як звер!» –
Быў разлік ягоны.
Не марудзіў афіцэр,
Кінуўся ў пагоню.
Так сказаць, «Парыж–Дакар»
Пачалося ралі.
Па палях, як на пажар,
Борздых «коней» гналі.
Недалёка лесу рог,
Там глухія сцежкі…
Толькі раптам «конік» здох –
Тройчы чмыхнуў і заглох.
Дзе бягом, дзе пешкі
Рушыў ён да сасняку.
Думка біла ў скроні:
«Усё роўна я ўцяку
Ад тваёй пагоні!»
Блізка лес… Ды хоць заплач,
Бо саспела драма:
Як і «конік», уцякач
Хутка «здох» таксама.
З той прычыны, не сакрэт,
Фініш гэткі хуткі,
Што па сорак цыгарэт
Ён курыў за суткі.
Бокам вылезлі цяпер
Тыя цыгарэты –
Надта ж злосны афіцэр…
Пэўна, ў момант гэты
Уцякач падумаў так:
«Я не дзед па ўзросце,
Але ўжо такі здыхляк,
Што ў бліжэйшы час няўзнак
Лягу на пагосце…»
* * *
Браць гарэлку ахламон
Будзе ў магазіне,
А курыць усё-ткі ён,
Спадзяюся, кіне…

### Падлюкі

Казаў ён:
– Жах дый годзе –
Вакол адны падлюкі:
З піўнухі я выходзіў,
Дык адтапталі рукі.

### Не малако, а віно

Воўк прысунуўся да хаткі,
Нехлямяжага жытла,
І пачулі Казляняткі:
– Ваша мамачка прыйшла!
Адчыняйце, дзеткі, дзверы –
Я прынесла малака…
– Мы табе не верым, Шэры! –
Нечаканка для Ваўка. –
З'еў ты, мусіць, нашу маму,
Дый не ведаеш адно:
Мы яе паслалі ў краму,
Каб купіла там віно…

ПРАПАНУЮ!

# Аднавіць Беларускую сялянскую партыю!

З гэтым пытаннем я звярнуўся да фермераў Рэспублікі Беларусь. А справа вось у чым. Яўген Лугін знаходзіўся ў Амерыцы і вывучаў там фермерскую справу. Калі вярнуўся на радзіму, арганізаваў фермерскі рух: у Беларусі было створана каля 2000 фермерскіх гаспадарак. На жаль, потым палова з іх спыніла сваю дзейнасць, не атрымаўшы падтрымкі з боку дзяржавы.

У Мінскай вобласці на сённяшні дзень налічваецца 785 фермерскіх гаспадарак. Вось што пра фермерства кажа старшыня Мінскага аблвыканкама **Аляксандр Турчын:** *«Мы ўпэўнены, што сельскае прадпрымальніцтва спрыяе развіццю сельскіх тэрыторый, павышэнню даходаў насельніцтва, павелічэнню падатковых паступленняў у бюджэт, вырашае праблемы занятасці. У Мінскай вобласці развіццё фермерства мае аднастайную структуру вытворчасці, большасць спецыялізуецца на прадукцыі раслінаводства. Тэма арганічнага земляробства мае вялікі патэнцыял для развіцця гэтага віду вытворчасці».* Агульная плошча сельскагаспадарчых зямель у фермерскіх гаспадарках – 49,6 тысячы гектараў. За апошнія гады гэты паказчык павялічыўся на 24,6 працэнта.

Але сучасныя фермеры маюць пэўныя праблемы з выхадам сваёй прадукцыі на экспарт, што стрымлівае атрыманне валютнага прыбытку. Усе гэтыя пытанні павінна вырашаць Беларуская сялянская партыя, якую неабходна аднавіць фермерам. Фермерства павінна мець сваіх дэпутатаў у парламенце, якія і будуць агучваць злабадзённыя праблемы.

Па Стаўбцоўскай акрузе №70 не зарэгістравалі кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў мясцовага фермера **Юрыя Іваноўскага**, які сабраў 1077 подпісаў выбаршчыкаў. Знайшлі 27 быццам бы несапраўдных подпісаў. А калі б фермер Іваноўскі балатаваўся ў дэпутаты ад Беларускай сялянскай партыі, то ў яго не было б неабходнасці збіраць гэтыя подпісы. Вось чаму фермерам патрэбна свая партыя – каб ажыццяўляць змаганне за свае правы і праводзіць у жыццё аграрную рэформу!

А працы тут вельмі шмат. Па-першае, фермер не з'яўляецца ўласнікам зямлі. Ён яе арандуе ў дзяржавы. Трэба ініцыяваць стварэнне закона аб прыватнай уласнасці на зямлю.

Сучасныя СПК не з'яўляюцца сапраўднымі кааператывамі. Сучасны СПК – гэта дзяржаўнае прадпрыемства, у якім калгаснік – наёмны работнік. Адпрацаваўшы да пенсіі 40 гадоў і зарабіўшы сабе пенсію 300–400 рублёў, ён пакідае калгас без сваёй прыватнай уласнасці. Гэтыя СПК трэба хутка рэфармаваць у акцыянерныя гаспадаркі і кааператывы. Трэба на дзяржаўным узроўні прыняць закон: кожны СПК павінен стаць сапраўдным кааператывам, і кожны яго член – уласнікам зямлі і маёмасці.

Толькі арганізаваўшыся ў партыю, можна нешта змяніць у жыцці фермераў. Арганізаванасць – гэта вялікая сіла, якая можа прымусіць сучасную ўладу праводзіць рэформы на карысць народа. Паасобку змагацца за рэформы безвынікова. Лічу, што справай аднаўлення сялянскай партыі маглі б стаць былыя яе кіраўнікі – доктар біялагічных навук **Уладзімір Доўнар** і эканаміст-аграрнік **Міхаіл Антоненка**. Аднавіць сялянскую партыю трэба да пачатку прэзідэнцкіх выбараў, каб яна магла паўдзельнічаць у гэтай выбарчай кампаніі.

**Алесь ЗАРАНОК, эканаміст.**
*г.Калінкавічы.*

РЭЗАНАНС

# Поддерживаю Валерия Листопада!

Выражаю свою поддержку и уважение **Валерию Листопаду** за его точку зрения относительно военных парадов. Вы, Валерий, не единственный, кто так думает. Вы – дитя войны, и ваше слово во сто крат весомее разглагольствований тех, кто родился в послевоенное время и не видел бед и страданий, принесенных войной.

Мы все смотрим телевизор и знаем, откуда в последние годы идет бряцание оружием, восхищение новейшими образцами военной техники. Те, кто это делает, не понимают, что догму тысячелетней давности «хочешь мира – готовься к войне» надо бы уже и переосмыслить ввиду несоизмеримости разрушительной силы оружия прошлых лет и современного. Здравый смысл подсказывает, что, вооружившись до зубов, мы не можем чувствовать себя в полной безопасности. Напротив, из-за какой-то нелепой случайности может вспыхнуть мировой пожар. Чернобыль ведь тоже никто не хотел устроить, однако…

Очень хотелось бы, чтобы не только люди старшего поколения, а и современная молодежь высказала свое мнение о точке зрения В.Листопада. В каком мире вы хотите жить, молодые люди? Думайте и знайте, что равнодушие может обернуться тем, что изображено в коллаже **Ирины Пустоваловой.**

Да, те, кого власть имущие называют обывателями, могут немногое. Но капля камень точит!

Отдельная благодарность редакции «Народной Воли» за поднятие таких важных и, понятное дело, неудобных, не патриотичных с точки зрения властей тем.

**А.П.СТАРОВОЙТОВ, пенсионер.**

ПРАЦЯГ ТЭМЫ

# Чыноўнікі абавязаны размаўляць на беларускай мове!

Памятаю, у наш час з Беларусі прызыўнікоў пасылалі служыць у армію па ўсім Савецкім Саюзе, дзе яны не чулі роднага слова. І раней, і цяпер чалавек, пажыўшы ў горадзе месяц-другі, стараецца размаўляць па-руску. Што мы бачым зараз вакол сябе? Назвы гарадоў, вуліц, магазінаў, прадпрыемстваў, устаноў на шыльдах пішуцца на рускай мове. Нават раённыя і абласныя газеты выходзяць на рускай мове, на беларускай засталіся толькі іх назвы. Як не сорамна: вакол і паўсюль руская мова, нібы жывеш не ў Беларусі.

Прыемна слухаць, калі ў Мінску ў транспарце аб'яўляюць прыпынкі на беларускай мове.

Каб вярнуць мову на дзяржаўны ўзровень, я прапаную, як гэта было ў 1990-х гадах: у садках і школах ўкараніць беларускую мову ў паўсядзённы ўжытак, затым у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах выкладанне прадметаў перавесці на родную мову. Чыноўнікі абавязаны размаўляць на беларускай мове, а не грэбаваць ёю. Тэле- і радыёперадачы павінны весціся на беларускай мове.

Многія беларусы непамерна захапляюцца чужой мовай. Сорам!

**Сяргей Васільевіч ПІСАРАЎ, пенсіянер.**
*г.Салігорск.*

ВЫПАДАК З ЖЫЦЦЯ


Калаж Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

# ВАЎКІ

Пасля трохгадовай тэрміновай службы я паспяхова паступіў на аддзяленне журналістыкі філфака БДУ і ўжо вучыўся на другім курсе. Жыў у старэйшага брата Пятра на яго прыватнай гарадской кватэры – так захацелася нашым бацькам. Кожныя выхадныя хто-небудзь з нас, трох сыноў, абавязкова ехаў да іх у вёску Нежаўка, каб праведаць, завезці свежых прадуктаў, нанасіць дроў у хату, дастаць бульбы, буракоў, капусты са склепа і выканаць іншыя дробныя работы.

Дабірацца да нашай бесперспектыўнай вёсачкі было вельмі складана: аўтобус са сталіцы не хадзіў, і ўсе гараджане вырашалі гэту праблему па-свойму. Пеця з Валодзем ехалі звычайна да вёскі Драчкава на маршрутным аўтобусе Мінск–Пяцігодка, а потым топалі пешкі да Нежаўкі восем кіламетраў з сумкамі, пакетамі, авоськамі. Маладым гэта было не так ужо і цяжка, асабліва калі збіралася добрая кампанія аднавяскоўцаў.

Я ж прыстасаваўся мудрэй. Да Драчкава ехаў з Нежаўкі на веласіпедзе, там пакідаў транспарт у знаёмай бабулькі пад паветкай, а калі вяртаўся ў свой родны кут, забіраў яго, прымацоўваў клункі – што на багажнік, што на руль ці на раму – і «газаваў» так, што аж вецер свістаў у вушах.

І вось якая незвычайная гісторыя здарылася са мной падчас аднаго з такіх рэйсаў да роднага жытла.

Еду на сваім ровары па асенняй дарозе, песню мурлыкаю ў такт настрою. Падмерзла. На багажніку моцна прывязаны саквояж, на рулі – сумка з хлебам, каўбасой, іншымі прадуктамі. На дарозе ні душы. Праехаў большую частку шляху і раптам заўважыў, што з правага боку дарогі абганяюць мяне два сабакі. Ого, падумаў я, нездарма, відаць, гэтакі эскорт! Мо пачулі пах хлеба, курыцы ці каўбасы… Тармазнуў веласіпед, спешыўся. Глянуў у бок – сабакі таксама спыніліся, нават прыселі на раллю. Я пазваніў веласіпедным званком. Сабакі сарваліся з месца, адбеглі на некалькі крокаў ад дарогі і зноў селі.

Вось тут усю маю істоту і скаваў жах – гэта ж ніякія не сабакі, а сапраўдныя ваўкі! Сухарлявыя, даўганогія, з прагнымі ікламі і доўгімі языкамі... Паспрабаваў крыкнуць – голас кудысьці знік, а па хрыбетніку пакаціўся ліпкі струменьчык халоднага поту. У галаве раптам усё памутнела, ногі сталі ватныя. Хацеў перакінуць правую нагу праз сядло веласіпеда – не атрымалася. На мяне напаў такі калатун, што зуб на зуб не трапляў. Пазваніў яшчэ раз – звяры нават не зварухнуліся, толькі сталі больш пільна глядзець у мой бок.

Сказаць, што раней я ніколі не сустракаўся з такімі драпежнікамі, будзе няпраўдай. Ідучы зімой у школу ад Нежаўкі да Грабёнкі, мы не аднойчы ў піліпаўку заўважалі ваўкоў, якія цэлай чарадой адзін за адным перабягалі лясную дарогу і знікалі ў гушчары. Але ж то было ў час звярынага гону – ім было не да нас. Ды і хадзілі мы ўсёй камандай з выдатным праваднікам Іванам Круглікам. Ён быў самы старэйшы з нас і кожны дзень браў з сабой смаляны факел. Уваходзячы ў лес, запальваў яго і першым крочыў па гурбах, пракладваючы нам дарогу. Агню ваўкі баяцца. Тады яны мне здаваліся нават нейкай забаўкай. А тут – адзін на адзін са звяругамі, і падтрымкі ніякай. Хоць ты завой па-воўчаму!

Паступова да мяне пачаў даходзіць увесь жах майго незайздроснага становішча. Ваўкі яўна хацелі прытаміць мяне, каб больш надзейна потым напасці, паваліць і загрызці, як гэта яны рабілі, мабыць, ужо не аднойчы з дваравымі сабакамі, дробнымі хатнімі жывёлінамі, выпадковымі зайцамі і птушкамі. Я яскрава ўяўляў, як іх жудасныя іклы будуць балюча ўпівацца ў маё безабароннае цела, а сілы супраціўстаяць у мяне ўжо не будзе. Мае родныя спахопяцца толькі праз некалькі дзён, а да таго часу ад мяне застанецца толькі ашмоцце адзення і, можа, абутку. Колькі гора будзе маёй радні, маёй каханай – студэнтцы, з якой у нас пачалі завязвацца прыгожыя адносіны.

Я ўжо пачаў змірацца са сваім няшчасным лёсам, прыходзіць у сябе. Моцна сціснуў у руках руль, пазваніў яшчэ некалькі разоў. Звяры адразу ж ажывіліся… А ўздоўж дарогі ні дрэўца, каб залезці на яго і дачакацца выпадковага збавіцеля ці машыны. Перахрысціўся я і патупаў у напрамку сваёй вёсачкі. Нездарма ж прымаўка існуе, што надзея памірае апошняй.

І раптам быццам Бог пачуў маю роспач: з боку Драчкава замігцеў светлячок-агеньчык, потым данёсся гул матора. Вось спыніўся побач са мной бензавоз, вылез вадзіцель, аб нечым пытаецца... Я пазнаў яго – гэта быў Валодзя Жданок з Грабёнкі, куды я пяць гадоў хадзіў у школу. А я толькі паказваў рукой у правы бок і шаптаў:

– Там ваўкі, дзядзька Валодзя, яны мяне з'ядуць...

Вадзіцель некалькі разоў пасігналіў, і ваўкі кінуліся прэч, пераскочылі цераз дарогу ззаду машыны і зніклі з поля зроку. Я быццам наноў нарадзіўся!

– Забярыце мяне, калі ласка, у машыну, дзядзечка, родненькі!

– А куды? Кузава ж у мяне няма, а ў кабіне ўсялякага ламачча поўна. Веласіпед жа ты таксама не пакінеш на дарозе, гэта рэч дарагая. Давай так: адвязвай свае пакункі ад веласіпеда і кідай мне ў кабіну. Неяк уладкую. А сам сядай на сваю тэхніку і паціху «шавялі паршнямі». Я ж услед за табой папхнуся. На машыну ваўкі не кінуцца, а я яшчэ і сігналіць буду.

Адкуль толькі сілы ў мяне ўзяліся! Паказаліся агеньчыкі маёй роднай Нежаўкі. Зайшлі мы з шафёрам да нас у хату, расказалі пра здарэнне. Вадзіцель, выпіўшы чарку, выдаў свой сакрэт. У Смілавічы ён паехаў у той дзень раніцай Магілёўскай шашой па ўласнай справе. Усё зрабіў як след і хутка завітаў да швагра, а той угаварыў «зрабіць па чарцы». Паехаць пасля гэтага дадому тым жа шляхам не рызыкнуў – даішнікі маглі затрымаць. Перасек шашу і – напрасткі да Драчкава, а там і на Нежаўку. Такім вось чынам нечакана і выратаваў ён мяне ад немінучай гібелі.

Я ж па той няшчаснай драчкаўскай дарозе больш ні разу на веласіпедзе не ездзіў. І пра выпадак з ваўкамі расказваць доўгі час не хацеў нікому – баяўся, што не павераць…

**Міхась ЗНАК.**

ПРОБЛЕМА!

# Кто подсчитает убытки от алкогольной эпидемии?

Христианский мир отпраздновал Светлое Христово Воскресение.

Светскую и церковную жизнь людей в праздничные дни ограничила эпидемия коронавируса. Причина появления этого вируса пока только Богу известна. Не сомневаюсь, что медики и ученые в скором времени выполнят свою благородную работу и эпидемия прекратится.

А вот хроническая алкогольная эпидемия в Беларуси не прекращается. И убытки от нее никто не подсчитывает.

**Н.А.КАКАРЕКА.**
*Минск.*

ПРАШУ СЛОВА!

# Дорогое удовольствие!

Обращается к вам пенсионер, ветеран труда (44 года стажа). Проживаю в деревне.

Опубликуйте, пожалуйста, мое письмо – может, оно дойдет до президента или чиновников из Минэнерго. Много пишут в газетах и рекомендуют пользоваться энергией на отопление по льготным тарифам. Обратился в местный РЭС, но мне столько всего наговорили – масса проблем! Да и подключение – дорогое удовольствие: протянуть водопровод, установить счетчик, бойлер, котел и так далее.

У меня домик жилой площадью 30 кв.метров. Я считаю, что достаточно установить два обогревателя белорусского производства, оборудовать счетчик, протянуть водопровод, то есть сделать раздельный учет по льготным тарифам на зимний период. Но мне ответили, что на обогреватели закон не распространяется. Подключайтесь в существующую сеть. И во сколько обойдется мне электричество по полным тарифам? А еще насчитают за перерасход энергии…

Получается, что лампочка Ильича недоступна простым людям. При советской власти 1 кВт·ч стоил одну копейку. А мы ведь живем в социально ориентированном государстве!

**В.Т.ЖУКОВСКИЙ.**
*Климовичский район.*

МАРШРУТЫ

## Чыгунку з Друскінінкая ў Гродна хутка адновяць

*У літоўскім Друскінінкаі зацверджаны новы план развіцця горада, паводле якога планауецца аднаўленне чыгункі з Літвы ў Гродна.*

Згодна з новым планам, павінны з'явіцца чыгуначныя зносіны з Марцінконіса ўздоўж граніцы да Друскінінкая, а ўжо адтуль – да беларускай мяжы ў накірунку Парэчча і Гродна, як і было раней.

Цяпер, каб трапіць па чыгунцы з Гродна ў Вільнюс, давядзецца рабіць невялікі круг. Відавочна, літоўцы ставяць на мэту зрабіць Друскінінкай паўнавартасным транзітным пунктам, а не тупіковай станцыяй, як было раней.

Паводле новага плана, у Друскінінкаі будуць перанесены аўта- і чыгуначны вакзалы.

Нагадаем, што ў 1860-я гады Гродна і Вільнюс былі буйнымі вузлавымі станцыямі чыгункі на маршруце Санкт-Пецярбург–Варшава. Да 1991 года міжнародная чыгунка нармальна функцыянавала, але пасля з'яўлення новых незалежных дзяржаў і ўсталявання граніц паміж імі канцавым пунктам стала станцыя Марцінконіс. Літоўцы бок разабралі рэйкі ад станцыі да мяжы з Беларуссю. А праз некалькі гадоў тое ж было зроблена і ад Друскінінкая да мяжы з Беларуссю. У Друскінінкай з Гродна патрапіць цягніком стала немагчыма. А ў Вільнюс некаторы час курсіраваў цягнік з Гродна праз Ліду, што павялічвала шлях на 70 кіламетраў. А таму гродзенцаў новы план развіцця Друскінінкая вельмі ўсхваляваў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ**

ХОРОШАЯ НОВОСТЬ!

## Болгария планирует начать летний туристический сезон 1 июля

*Об этом заявила министр туризма Болгарии **Николина Ангелкова**.*



*«Мы планируем начать подготовку с 15 июня и активный летний сезон – с 1 июля»*, – сказала Ангелкова.

Туризм генерирует 12% ВВП Болгарии, в этой сфере заняты 11% трудоспособных болгар.

*«Вместе мы работаем над тем, чтобы болгарский туристический продукт был высокого качества, у нас есть много туристических возможностей. Я надеюсь, что этот кризис сделает нас сильнее и сплоченнее, несмотря на ту напряженность, которую каждый из нас испытывает в связи с неопределенностью на данном этапе»*, – отметила Ангелкова.

Как сообщалось, страны-члены ЕС выступают за создание общего плана восстановления туристической отрасли после пандемии коронавируса, включая возмещение стоимости путешествий для граждан стран-членов Евросоюза.

ПОЛЕТЕЛИ!

## Wizz Air возобновляет рейсы из аэропорта Вены в города Европы

*Первые самолеты отправятся в Дортмунд, Эйндховен, Салоники, Лиссабон и Осло. В течение месяца список расширят Рим, Милан, Тенерифе и Валенсия.*

Перечень направлений может быть скорректирован из-за изменений в ограничениях на поездки.

Австрийское правительство снизило ограничения на выезд из страны.

Авиакомпания заявила, что борта дезинфицируются каждую ночь, а персонал обучен выявлять зараженных пассажиров и действовать соответственно ситуации.

Во время регистрации и посадки будут приняты «физические меры» для поддержания дистанции.

В минувшие выходные компания Wizz Air объявила о возобновлении рейсов из аэропорта Лутон в Лондоне более чем на дюжину направлений, большинство из них – в Румынию. В мае авиакомпания также планирует вылеты из Будапешта в Мадрид и Берлин.

Молдова с 15 мая может возобновить регулярные коммерческие рейсы, поскольку чрезвычайное положение, скорее всего, продолжать не будут.

Литва может возобновить авиасообщение 10–15 мая.

КАЛЕЙДОСКОП

## Люксембург планирует за месяц проверить все население на коронавирус

*Об этом заявил министр образования и исследований **Клод Мейш**.*

*«Мы хотим протестировать все население страны (около 614.000 человек) в течение следующего месяца. Во время процесса выхода из карантина очень интересно иметь информацию о вирусе: где он, как он передается»*, – сказал он.

Министр добавил, что в стране сейчас есть 17 станций для проведения тестов и мощность для осуществления 20.000 тестов в день.

Первыми, кто пройдет тестирование, будут учащиеся и работники сферы образования.

Люксембург неделю назад начал отменять ограничения: первый этап предусматривает возобновление работы строительных площадок, городских центров утилизации, магазинов по обустройству домов и садовых центров.

ЗА ОКЕАНОМ

## Элизабет Уоррен поддержала Байдена



Сенатор США Элизабет Уоррен, которая боролась за свое выдвижение в кандидаты в президенты от Демократической партии, поддержала в президентской гонке своего бывшего оппонента Джо Байдена.

*«В этот кризисный момент важнее, чем когда-либо, чтобы следующий президент восстановил веру американцев в хорошее, эффективное правительство, – и я видела, как Джо Байден помогает нашей стране восстановиться. Сегодня я с гордостью поддерживаю Джо Байдена на пути к посту президента США»*, – написала Уоррен.

Уоррен – последняя главная соперница Байдена на праймериз, которая решила публично его поддержать. Байдена также поддержал бывший президент Барак Обама.

После выхода из гонки Берни Сандерса Джо Байден стал главным соперником Дональда Трампа на президентских выборах, которые должны состояться в ноябре.

ПОД ПРИЦЕЛОМ

# Кругом одни шпионы…



В Украине недавно произошло, можно сказать, беспрецедентное событие. В 500 метрах от академии Службы безопасности Украины (СБУ – аналог белорусского КГБ), в квартале служебных домов, где проживают в основном сотрудники спецслужб, произошло весьма жесткое показательное задержание генерал-майора СБУ **Валерия Шайтанова**, который еще каких-то полгода назад руководил элитным подразделением – Центром спецопераций СБУ.

Пресс-служба СБУ сообщила: *«Как свидетельствуют материалы дела, Валерий Шайтанов, являющийся одним из бывших руководителей Центра специальных операций «А» СБ Украины, на самом деле находился на агентурной связи под псевдонимом «Бобиль» у полковника ФСБ **Игоря Егорова**. Егоров – сотрудник Департамента контрразведывательных операций 1 Службы ФСБ – подразделения, специализирующегося на планировании, организации и проведении разведывательных и диверсионно-террористических акций на территории как Украины, так и других государств. Следствие также обладает неоспоримыми доказательствами того, что по заданию спецслужб России генерал-майор Шайтанов планировал проведение террористических актов на территории Украины. За это представитель ФСБ гарантировал вознаграждение в размере 200 тыс. долл. США и паспорт гражданина России. В качестве исполнителя Шайтанов специально подобрал лицо среди бывших воинов спецподразделений. Подготовка к этим преступлениям четко зафиксирована в материалах дела»*.

За всю историю независимости Украины столь брутального задержания и такого рода обвинений в адрес высокопоставленного сотрудника, генерала спецслужб, никогда еще не было. Кто такой генерал Шайтанов и как он оказался на руководящей должности в элитном спецподразделении во время российско-украинской войны?

Валерий Альбертович Шайтанов родился 1963 году в Архангельской области. Окончил Рязанское высшее воздушно-десантное училище. Служил в КГБ, после развала СССР продолжил службу в СБУ. До февраля 2014 года возглавлял подразделение группы «Альфа» в Харькове. Во время революционных событий 2014 года был переведен в Киев.

Генерал-лейтенант МВД **Геннадий Москаль**, еще шесть лет назад раскрывший оперативный план СБУ по ликвидации Майдана, упоминал полковника Шайтанова, заместителя командира «Альфы», как непосредственного руководителя одной из сводных групп СБУ и МВД, штурмовавших 18 февраля 2014 года Дом профсоюзов на Майдане. Здание во время штурма загорелось и внутри практически полностью было уничтожено огнем. Заживо сгорели несколько человек из числа участников протестов.

После этого полковник Шайтанов засветился 20 февраля 2014 года, в день расстрела протестующих на Майдане. Он вместе с начальником 5-го разведуправления ФСБ России **Сергем Беседой** был на встрече у **Виктора Януковича.**

В апреле 2014 года в самом начале боевых действий на Донбассе Шайтанов отметился саботажем приказов командования. Это позволило наемникам и представителям российских спецслужб закрепиться в захваченном Славянске. Шайтанов отказался выполнять письменный приказ по освобождению этого города. За неподчинение приказу председатель СБУ **Валентин Наливайченко** отстранил его от службы.

Но потом президентом Украины стал Петр Алексеевич Порошенко, и началась череда удивительных событий. Президент отправил в отставку **Валентина Наливайченко**. 2 июля 2015 года Верховная Рада по представлению президента назначила **Василия Грицака** председателем СБУ. На следующий день после назначения президент потребовал от нового руководителя спецслужбы представлений на увольнение ряда высших руководителей этой организации и предложений относительно кадрового укрепления СБУ. И Василий Сергеевич постарался – начал активно «укреплять» организацию: вернул на службу прошедшие огонь и воду «ценные» кадры.

Практически сразу после восстановления на службе, 21 августа, Валерий Шайтанов был награжден президентом Украины орденом Богдана Хмельницкого 3-й степени. 23 августа ему присвоили звание генерала, после чего сразу назначили руководить спецоперациями СБУ. Очень занимательная история о прямо-таки головокружительной карьере после таких впечатляющих событий 2014 года.

Далее новоиспеченный генерал занялся обычной рутиной: провел задержание **Геннадия Корбана**, одного из политических оппонентов **Петра Порошенко.** Для этого он разработал чуть ли не целую военную операцию. Шайтанов непосредственно руководил многочисленной группой, состоящей в основном из сотрудников 8-го управления Центра специальных операций по борьбе с терроризмом СБУ «Альфа», которые на бронеавтомобилях «Кугуар», оборудованных пулеметами, приехали, по сути, в мирный город Днепропетровск. В то время такую картинку непосредственно на фронте нечасто встретишь, а тут в тылу, в одном из самых крупных городов Украины при задержании политического оппонента.

И вот спустя почти пять лет выясняется, что генерал не только «прессовал» оппонентов Порошенко, а еще все это время изменял государству, во время войны передавал сведения врагу, предавал своих сослуживцев, участвовал в организации убийств…

Можно ли разоблачение генерала-предателя считать успехом украинской контрразведки? Отчасти да. Но нужно учитывать, что значительную часть доказательной базы выявили, задокументировали и передали Украине западные спецслужбы. Вероятно, именно они зафиксировали его встречи в нескольких странах Западной Европы с офицером спецслужб Российской Федерации **Игорем Егоровым**, ранее награжденным медалью «За возвращение Крыма» и активно принимавшим участие в операциях по оккупации Донбасса.

Сможет ли следствие установить, в организации каких резонансных убийств участвовал Валерий Шайтанов? Действовал ли он один или в группе, кто и почему ему покровительствовал? Какие сведения он передал врагу? Какой ущерб нанесен стране и ее защитникам? Вопросов больше, чем ответов. Вероятно, многое будет зависеть от политической воли руководства страны и его непосредственного желания установить факты и раскрутить всю цепочку.

**Александр ЦЫНКЕВИЧ,**
**собственный корреспондент газеты «Народная Воля» в Украине.**

ЛОБ В ЛОБ

# Президент Грузии: назначение Саакашвили поставит под угрозу отношения между странами

***Саломе Зурабишвили** надеется, что бывший президент Грузии **Михаил Саакашвили** не будет назначен вице-премьером украинского правительства, поскольку такой шаг подорвет отношения между двумя государствами.*

*«Как глава государства, я хорошо понимаю, что недопустимо вмешиваться во внутренние дела и политику другого государства*, – заявила Зурабишвили. – *Но также неприемлемо и совершенно непонятно давать государственную должность в правительстве человеку, чьи уголовные действия подтверждены не только грузинской судебной властью, но и соответствующим решением Европейского суда по правам человека. Не говоря уже о том, что его обвиняют в тяжких коррупционных преступлениях.*

*Я надеюсь, что общее прошлое, настоящее и будущее наших братских народов никогда не будут поставлены под сомнение»*.

22 апреля стало известно, что Михаила Саакашвили могут назначить вице-премьером по вопросам реформ. Сам Саакашвили подтвердил, что получил такое предложение.

В январе 2018 года суд Грузии заочно приговорил Саакашвили к трем годам заключения по обвинению в злоупотреблении служебными полномочиями.



АБЗАЦЕМ

## Польша продлила для иностранцев закрытие границ

Ограничения при въезде иностранцев в Польшу сохраняются: попасть в страну могут только те иностранные граждане, которые являются супругами или детьми польских граждан, дипломаты и члены их семей, а также некоторые другие категории лиц.

## Британцы на карантине покупают втрое больше алкоголя

Это наибольший рост месячных продаж за все время наблюдений – с 1988 года.

## Чехи могут выезжать за границу

Правительство Чехии на прошлой неделе позволило жителям страны выезжать за границу по любой причине при условии прохождения тестирования на границе по возвращении или прохождения 14-дневного карантина.

## Шведы контролируют рестораны

В Стокгольме усилят контроль за соблюдением ресторанами ограничений по количеству посетителей. Заведения общественного питания в Швеции продолжают работать, но должно быть соблюдено требование, чтобы в помещении не находились одновременно более 50 человек и чтобы посетители сидели на безопасном расстоянии друг от друга.

## Албанцы на чрезвычайном положении до 23 июня

Это решение утвердил парламент. Заседание проходило при строгих мерах безопасности, все депутаты и члены правительства были в перчатках и защитных масках и соблюдали дистанцию.

У СОСЕДЕЙ

## Литва вводит уголовную ответственность за нарушение самоизоляции

*Люди, которых проинформировали о подтвержденном инфекционном заболевании и необходимых защитных мерах, но которые продолжают поддерживать контакты с другими людьми, могут быть привлечены к уголовной ответственности.*

Человеку с подтвержденным COVID-19, нарушающему правила самоизоляции и карантина, грозит до года тюрьмы.

## Эстония думает над внедрением голосования через смартфон

*В Эстонии могут разрешить голосовать на выборах через смартфон при снижении рисков, связанных с киберугрозами.*

Государственная избирательная комиссия совместно с департаментом государственных инфосистем изучили вариант голосования через смартфон и пришли к выводу, что технически это возможно, но необходимо защитить избирательные системы для компьютеров и мобильных телефонов от вредоносных программ.

Председатель избиркома **Арне Койтмяе** заявил, что этот анализ дал «зеленый свет» прогрессу в системе электронного голосования.

До сих пор голосовать через интернет в Эстонии можно было только с помощью компьютера. Теперь технически это можно сделать через смартфон. По словам Койтмяе, следует подумать о том, как это оформить юридически, а также уменьшить риски киберугроз.

*«Важно найти альтернативные способы голосования, особенно на фоне нынешнего чрезвычайного положения, когда людям настоятельно рекомендуют оставаться дома»*, – добавил Койтмяе.

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Хоць вялікая луста – пасярэдзіне пуста

Няма ліха без дабра: COVID-19, як спрактыкаваны пастух, пазаганяў нас у цесныя кватэры і прымусіў чытаць кнігі, на якія раней бракавала часу. Мая фэйсбучная стужка перапоўнена чытацкімі ўражаннямі сяброў. Адзін з іх парэкамендаваў звярнуць увагу на кніжную серыю «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры», якую выпусціла ў свет выдавецтва «Харвест». Роўна 100 кніжачак невялікага фармату з пазнавальнымі партрэтамі на вокладках за адносна кароткі час і з'явіліся ў кнігарнях. Дарэчы, каштуюць яны нядорага – каля 5 рублёў. Пакупнік па такой цане набывае кнігі, не прыцэньваючыся. Набыў і я – жыццяпісы Ларысы Геніюш, Міхася Стральцова і Міколы Ермаловіча, напісаныя Анатолем Астапенкам. Пачаў чытаць і зразумеў, што аўтар, фізік паводле адукацыі, узяўся яўна не за сваю справу.

Кніжка пра Геніюш аказалася бессаромным пераказам яе знакамітай «Споведзі». Хоць у акадэмічнай бібліятэцы ляжыць багаты архіў паэткі, дзе матэрыялаў – на дзесяць манаграфій.

Кніжку пра Стральцова, прызнаюся, я так і не змог дачытаць. Бо амаль на кожнай старонцы знаходзіў памылкі, недарэчныя сцвярджэнні і дзіўныя высновы. Напрыклад, аўтар піша: *«У 1986 годзе М.Стральцову была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР імя Янкі Купалы (пасмяротна)»*. Але ж Стральцоў памёр у 1987-м.

*«Спецслужбы не пакінулі яго нават падчас смяротнай хваробы»*, – інтрыгуе чытачоў Астапенка. Але не існуе ніводнага дакументальнага пацвярджэння гэтым словам. Магчыма, пішучы адразу тры кніжкі, аўтар пераблытаў сваіх герояў і прыпісаў Стральцову свае думкі пра Геніюш? І ўжо зусім неадэкватна гучыць Астапенкава прапанова зладзіць судовы працэс «Нюрнберг-2» над камунізмам, каб разгледзець *«справу аб здзеку з таленту і здароўя беларускага пісьменніка Міхася Стральцова»*. Стральцоў, у адрозненне ад Геніюш і Ермаловіча, не быў дысідэнтам, на які суд яго гвалтам цягне пракурор Астапенка?

Не лепшым чынам фізік-пракурор выглядае і тады, калі спрабуе перакваліфікавацца ў літаратуразнаўцу. Класічнае апавяданне Стральцова «Смаленне вепрука» ён ні з пушчы, ні з поля чамусьці параўноўвае з… «Чорным квадратам» Казіміра Малевіча. Больш недарэчнае параўнанне і прыдумаць цяжка!

А чаго вартае ўпіхванне Стральцова ў нейкі інтэрнэтны рэйтынг па вызначэнні секс-сімвала ў беларускай літаратуры! *«Стральцоў на першым месцы!»* – захоплена ўсклікае Астапенка, відавочна, задаволіўшыся тым, што яго герой «абышоў» у тым рэйтынгу Максіма Багдановіча (яму дасталася другое месца), Максіма Танка (скаціўся ажно на восьмае) і Кастуся Каліноўскага (сціпла апынуўся паміж двума Максімамі)... На сметніку можна знайсці што заўгодна, але навошта ўсё знойдзенае цягнуць у кніжку?

Трэба сказаць, што Анатоль Астапенка – запатрабаваны аўтар у серыі «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры». Яе заснавальнік, каардынатар і рэдактар Анатоль Тарас даверыў свайму цёзку напісанне шасці кніжак, праўда, і сам не сядзеў склаўшы рукі – пад яго прозвішчам (ці псеўданімам Анатоль Менскі) пабачылі свет ажно 24 выданні. Але ці не той гэта выпадак, калі вялікая луста, а пасярэдзіне пуста?

Над кніжкай пра Міколу Ермаловіча два Анатолі папрацавалі творчым тандэмам. Пачынаецца яна з прадмовы Тараса, дзе ні слова пра вартасці Астапенкавай працы, там і сам Ермаловіч прысутнічае як дапаможная фігура, як «сведка на працэсе». А сам «працэс», увесь ягоны пафас і гнеў скіраваны супраць гісторыка Алеся Краўцэвіча. Тарас чамусьці вырашыў скарыстаць сваю ж серыю для звядзення асабістых рахункаў. І зрабіў гэта ў беспардонна-агрэсіўнай форме.

Ужо з першых старонак кніжкі чытач са здзіўленнем даведаецца, што *«такія, як Краўцэвіч, старанна служаць тым, хто дае ім грошы, – летувісам, палякам, расійцам»*, што *«для людзей, падобных Краўцэвічу, галоўнае ва ўсе часы – добра ўладкавацца»*, што *«да 1992 года ўсе яны хаваліся пад шафай, як мышы»*.

Бі хоць таўкачом, абы было па чом – просіцца на язык прыказка. Па чым жа б'е аўтар прадмовы, штó яго так прагнявіла? Аказваецца, даўні артыкул А.Краўцэвіча «Анатоль Тарас і Парнас», дзе крытычна (але, на маю думку, аргументавана) ацэньвалася дзейнасць А.Тараса як гісторыка і публікатара. І вось адказ, які нагадвае размахванне аглобляй на навуковай дыскусіі.

У сваім апантаным памкненні затаптаць у гразь імя апанента Тарас, відаць, забыўся, што ён яшчэ і рэдактар. А таму ў кніжцы Астапенкі безліч памылак і выразаў накшталт *«эйфарыя прыйшла ў свой антыпод»*, *«паходзіў хоць з сялянскай, але пародзістай сям'і»*, *«ішоў, як сабака па следу»* (гэта пра М.Ермаловіча!).

Я мог бы і далей прыводзіць прыклады моўнай глухаты, даследчыцкага нядбальства і звычайнага шахрайства, якіх хоць адбаўляй у трох названых кніжках. Гэта не жыццяпісы выдатных людзей, а глум і здзек з іх. Шкада, што «трохтомнік» непісьменнага графамана пляміць усю серыю. Бо нездарма ж кажуць у народзе: праз аднаго барана ўсё стада пагана.



ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Наталья Петкевич устроила фотосессию в Нью-Йорке

## *И произвела фурор в соцсетях!*

Фотографом, который сделал великолепные снимки бывшей влиятельной белорусской чиновницы, был ее сын Филипп, который много фотографирует и пытается запечатлеть самые разные моменты. Он рассказал, что сам предложил маме фотосессию и волновался как никогда!

*«Несколько недель назад я попросил у мамы разрешения сфотографировать ее*, – подписал он снимки. – *Я волновался, что все пройдет не очень хорошо, потому что это не то же самое, что фотосессии с друзьями, которые просто отдыхают с тобой. Тем не менее, на мой взгляд, результаты просто фантастические, а опыт совместного веселья по-настоящему объединяет!*

*Мы живем в стрессовые времена, поэтому сейчас важно проводить время с людьми, которые вам близки и небезразличны!»*

*«Мама – модель!»*, *«Очень красивая и элегантная!»*, *«Мама как сестра!»* – это лишь некоторые из отзывов под фотографиями.







Кстати, Наталья Владимировна действительно хорошо выглядит – стройная, с новой прической и своей фирменной улыбкой. И смотрится еще моложе, чем прежде!

Напомним, что Наталья Петкевич уехала в Америку вместе со своим третьим мужем – дипломатом **Валентином Рыбаковым**, который сейчас является постоянным представителем Беларуси при ООН. Первым ее мужем был Владислав Петкевич, руководитель Национальных спортивных лотерей. Вторым – Александр Мартыненко, экс-заместитель председателя Белтелерадиокомпании, который сейчас руководит ориентированным на зарубежье телеканалом «Беларусь 24».

С 2006 года Наталье Петкевич был запрещен въезд на территорию Евросоюза и США – после признания президентских выборов в Беларуси недемократичными. Летом 2015 года она и еще 23 белорусских чиновника были исключены из списка лиц, подпадающих под международные санкции. А вот американцы ее не простили. Однако быть вместе с мужем в Америке Наталья Владимировна может. Другой вопрос, что она лишена возможности, например, открыть там свой счет, получить водительские права.

Одно время Наталья Петкевич был пресс-секретарем А.Лукашенко, затем работала заместителем главы Администрации президента, помощником президента. В те времена ее называли «железной леди».

Сегодня Наталья Владимировна выглядит совсем не «железной», а просто спокойной и счастливой. И, вероятно, это не только эффект удачной работы фотографа, но и ее нынешнее внутреннее состояние.

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

**На фото: Наталья Петкевич. Филипп Петкевич (сын).**

ЗВЕЗДЫ

Арина СОБОЛЕНКО:

# «Мы научимся быть там, где сердце…»

*Известная белорусская теннисистка Арина Соболенко поделилась своими рассуждениями про мир в условиях коронавируса.*

– Пандемия нарушила привычный ход событий, – говорит известная спортсменка. – Акценты сдвинулись. Нет соревнований, но есть время на родных и друзей... Как же быстро человек адаптируется, и как совершенно по-другому ценится то, чего лишают!

Этот мир изменится. Мы научимся ценить саму возможность быть там, где сердце…

**Алина ВЕТРОВА.**



ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

Алесь СІВЫ

# Вяртанне блуднага сына

Зборная Беларусі па хакеі ўмацавалася: да трэніровак (якія, да слова, ужо спыніліся) далучыўся былы капітан нацыянальнай каманды Андрэй Стась, які тры гады таму са скандалам пакінуў гэтую самую зборную.

Калі дакладней, то сам Андрэй ніякага скандалу не заказваў, але многія балельшчыкі тады вынеслі адназначны вердыкт: здрада!

А перадгісторыя была такая. Восенню 2016 года беларускія хакеісты Андрэй Стась і Аляксандр Кітараў, якія выступалі за расійскі «Нефтехимик» з Ніжнякамска, аказаліся, што называецца, па-за гульнёй праз свой легіянерскі статус. Беларусы на той момант лічыліся ў КХЛ замежнікамі, а канкурэнцыя з іншымі замежнымі хакеістамі была не на іх карысць.

У выніку з той сітуацыі кожны зрабіў свае высновы. Кітараў вырашыў вярнуцца дадому і замацавацца ў мінскім «Дынама», а вось Стась не пакінуў надзеі застацца ў Расіі любой цаной. Тым больш што і добрая прапанова з'явілася – ад омскага «Авангарда». Заставалася дробязь – адмовіцца ад беларускага грамадзянства і прыняць расійскае, што Андрэй Стась і зрабіў.

Генеральны менеджар «Авангарда» Віктар Шалаеў тады пацвердзіў інфармацыю: *«Стась ужо не з'яўляецца для клуба шостым легіянерам, у нас ёсць пацвярджэнне з Федэрацыі хакея Расіі, што ён афіцыйна атрымаў расійскае грамадзянства, у тым ліку і спартыўнае. Андрэй – дасведчаны майстар, яго гульнявыя якасці і характар абавязкова дапамогуць «Авангарду»*.

Змена спартыўнага грамадзянства – звычайная практыка сярод спартсменаў, бо за кароткі век у спорце людзі хочуць не толькі дасягнуць нейкіх вынікаў, але і стварыць пэўную фінансавую падушку бяспекі. Але ж экс-капітан зборнай адмовіўся не толькі ад грамадзянства, але і ад выступлення за нацыянальную каманду, дзе быў капітанам.

*«Пагнаўся за доўгім рублём»*, *«прадаў Радзіму»*, *«патрыятызм для яго – у яго гаманцы»*… Вось няпоўны спіс прэтэнзій балельшчыкаў да Андрэя Стася, і ў гэтым плане беларускія аматары хакея не шкадавалі эпітэтаў у адрас былога куміра.

Сам хакеіст на выпады асабліва не рэагаваў, але да крытыкі дадаваліся і іншыя няшчасці. На пачатку 2018 года беларускі хакеіст разам з жонкай трапіў у гучны скандал, які здарыўся падчас навагодняга карпаратыву омскага «Авангарда». Тады адзін з «удзячных» калег па камандзе падчас бойкі зламаў Стасю нос, і для аказання дапамогі хакеісту нават выклікалі «хуткую». Паведамлялася, што яго жонка таксама *«атрымала невялікія цялесныя пашкоджанні на твары»*.

На хакейнай пляцоўцы складвалася не лепш. У гэтым сезоне Андрэй Стась не мог закінуць шайбу 63 гульні запар (!), і кіраўніцтва «Авангарда» зрабіла адпаведныя высновы – пазбавіла яго права насіць званне капітана. Кантракт з клубам у Андрэя закончыўся 30 красавіка, і не вядома таксама, якім будзе яго далейшы спартыўны лёс.

Але, як кажуць, бываюць у жыцці і маленькія радасці. За той час, што Стась быў «на заробках», у Расіі адмянілі для беларусаў і казахаў легіянерскі статус, а таму хакеіст займеў магчымасць ізноў вярнуцца ў зборную Беларусі. Чым, уласна кажучы, і скарыстаўся.

У зборную Расіі ўсё роўна ніхто не пакліча, а тут у блуднага сына ёсць рэальны шанц рэабілітавацца перад балельшчыкамі.

БОМОНД

Анатолий ЯРМОЛЕНКО:

# «Устал ходить по струнке и бояться!»

*Народный артист Беларуси Анатолий Ярмоленко на днях презентовал песню и клип, от которых мороз по коже. Композиция называется «Устал…». И она как никогда на злобу дня.*

*«Устал от беготни и заморочек…* – поет Ярмоленко. – *Устал ждать, может, завтра станет лучше, руками разгоняя тучи…*

*Устал!*

*Устал ходить по струнке и бояться, к дверям в метро не прислоняться, в серой толпе не выделяться…*

*Устал в заботах утопать беспечно, забыв, что жизнь не бесконечна и судный день уже настал…*

*Устал…»*

Из уст Анатолия Ярмоленко, который всегда «на позитиве», такие слова звучат несколько неожиданно. «Народная Воля» поинтересовалась, как возникла эта песня.

По словам Анатолия Ивановича, песня им прочувствована от начала до конца.

*«У каждого бывает такая минутная слабость, когда кажется: всё, устал, не могу больше!* – говорит Ярмоленко. – *Я сам по натуре пахарь, всегда иду вперед и в атаку. И когда у меня бывают такие минуты, я всегда ищу надежду. И в этой песне тоже, как мне кажется, финал позитивный…*

*Кстати, автор музыки – Аркадий Хаславский, стихи Леона Агулянского, оба автора живут в Израиле.*

*Эта песня у меня была уже готова, но там была другая музыка, вальс. А в результате сделали рОковую композицию. И всё сошлось, песня получилась, как мне кажется.*

*В эти весенние дни к нашим повседневным проблемам прибавилось серьезное испытание – коронавирус. Никто не предполагал, что так может быть... Мы к такому (изоляции, карантину и самоизоляции) были не совсем готовы. И от всех принятых мер, нужных и, наверное, правильных рекомендаций начинаем уставать. Но надо найти в себе силы, выдержку, надо проявить дисциплинированность, чтобы это пережить! И всё пройдет, как страшный сон...*

*Всё будет хорошо!»*

**Марина КОКТЫШ.**

***На фото:*** *Кадр из клипа.*



